№ 56 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 56 (252). Год III. Вільня, 19 ліпня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 18 ліпня.

### Заходні тэатр.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Армія Бэма ўчора вела цяжкіе бітвы. Ворагі падвязьлі новые дывізіі і пасьля многагадзіннай артылерыйскав падгатоўкі павялі вялізарную атаку на ўсім фронці на поўдня ад Марны. У вэчары бітва скончылася для нас удачна. Атакі ворагаў зламаліся с самымі цяжкімі стратамі. На поўдня ад Пурсі мы штурмам здабылі вяршыну гары і ўзялі тамака ў палон палкоўніка.

Зьбіты 23 самалёты.

---

МАСКВА. „Известія“ пішуць аб новым нямецкім статс-сэкрэтары ф. Гінцэ. Ен быў прыяцелем пана Мікалая Раманава, у часе свайго быцьця ў Пецярбурзе, як марскі агент, але гэта не даводзіць, што ён юнкер-рэакцыанер. Цяпер, калі магчыма, што глаўным ваенным тэатрам будзе цэнтральная Азія магчыма, што адмірал ф. Гінцэ пайшле свае корпусы проціў Англіі дарогай, катору ён лічыць найкарацейшай. Назначэньне Гінцэ азначае барацьбу на жыцьцё і сьмерць з Англіеей. Гэта разам з гэным азначае, што Нямеччына лічыцца яшчэ з доўгай вайной.

МАСКВА. Арэштавано многа польскіх і чэскіх афіцэраў.

Яраслаўль пасьля цяжкіх бітв папаў у рукі чэха-славакоў.

С прычыны набліжаючайся небаспекі ў Маскве будуюцца абаронные ваенные будоўлі.

МАСКВА. Соцыял-рэвалюцыанерная „Народное Дѣло“ наказывае, што ў Пэрсіі болей нема расейскага войска. Англічане занялі безмална ўсю Пэрсію і йдуць на Касьвін і Энзэлі, каб перашкодзіць нямецка-турэцкім войскам узяць Баку.

ШТОКГОЛЬМ. Прэдстаўнік «Swenska Dagbladet» наказывае з Расеі аб перамене настраеньня між верхаводамі кадэцкае партыі ў прыхільным да Нямеччыны кірунку. Некаторые з іх паехалі ў Кіеў, дзе яны вядуць перэгаворы аб супольных выступленьнях расейскіх буржуазных партый супольне з немцамі. Толькі гэтак можна вярнуць лад у Расеі.

МАСКВА. Пяты ўсерасейскі конгрэс Саветаў прыняў 12 ліпня аднадушна гэткі гэрб Расейскай Рэспублікі: на чырвоным фоне—сэрцэ і малаток з залатымі праменьнямі, і з дзьвемя злучэнымі рукамі. Навакол гэрбу вянок с каласоў з надпісам у атоку: „Расейская соцыалістычная фэдэрацыйная савецкая рэспубліка“ і „Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся“!

БЭРЛІН. Пераход цераз Марну ўдаўся на понтонах без ніякіх прашкод. Нямецкая артылерыя зьнішчыла ўсе прашкоды і прымусіла змоўкнуць варожы агонь. У 15 мінут нямецкая пяхота заліла першую францускую лінію. Ворагі, якіе не ўцяклі, былі забіты, або засыпаны. Ня гледзячы на тое, што францускіе пазыцыі праз доўгіе месяцы былі абернены ў недаступные крэпасьці, супольнай працай усіх родаў аружжа ў некалькі гадзін яны былі абвернены ў руіны.

ПАРЫЖ (Гавас). Абстрэл Парыжа з дальнабойных гармат трываў і ў аўторак.

ВЕНА. **Аўстрыяцкі парлямэнт.** Міністэр-прэзыдэнт Зэйдлер кажэ далей: „У Аўстрыі нямецкі народ ёсьць хрыбтом манархіі. Так было і так будзе. Урад не адойдзе ад намэчэнага кірунку. Немцы Аўстрыі жадаюць толькі жыць спакойна і разьвівацца без перашкод. У Галіцыі ўрад будзе старацца справядліва адносіцца да нацыанальных патрэб галіцыйскіх народаў. Урад просіць зацьвярджэньня бюджэта і аб пазваленьні ваеннай пазыкі. Дэпутат, чэх Тусар кажэ, што міністер-прэзыдэнт паказаўся нямецкім нацыаналістам і што яго мова будзе прычынай новых нацыанальных сварак.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. (Агенцыя Мілі) З верных крыніц наказываюць, што між паўночным і палудзенным Каўказам ідуць перэгаворы аб узаемным саюзе, каб абараніць Каўказ ад чужыў уплываў.

БЭРЛІН. Да сярэдзіны чэрвеня з Нямеччыны вывезено ў Украіну 322 вагоны з рознымі таварамі, з іх 230 з земляробнымі прыладамі. Заказано яшчэ 600 вагонаў земляробных прылад і 360 вагонаў іншых тавараў. Лічацца з магчымасьцю нямецкага вывазу ў Украіну тавараў коштам да мільярда рублёў.

БУКАРЭШТ. На сягоньняшнім заседаньні парлямэнту прэзыдэнт сказаў, што бытые члены міністэрства Брацiану, каторые асталіся ў краі, між імі консэрватары міністры Кантакузену і Марэску, заявілі сваю супольную адпаведальнасьць с Такэ Енэску і сваё жаданьне адказываць разам з ім прад судом.

ПАРЫЖ (Гавас). Перад дзержаўным судом пачаўся сягоньня процэс проціў быўшага міністра Мальві, каторага вінавацюць у тым быццам ён паведаміў Немцаў аб ваенных плянах і стараўся падняць бунт у францускіх палкох.

ГАМБУРГ. Рэвэльскі біржэвы камітэт паслаў у Тарговую Палату ў Гамбургу тэлеграму, ў каторай ён дзякуе за аднаўленьне старых зносін між абодвымі мес тамі, сябрамі старадаўнай Ганзы (саюзу).

# Новая Беларусь.

У Вільні ўсё часьцей сустрэчаюцца беларусы—пераважна афіцэры, каторые вертаюцца з нямецкага палону і едуць праз Вільню ў свой родны край. Іншые з іх былі аддзелены ад свае Бацькаўшчыны гады па чатыры. Вось-жэ, за гэты час столькі перамен зрабілося на Беларусі, што яны—гэтые варочаючыеся палонные—ніяк ня могуць зразумець вялізарнай перамены ў нашым народзі, ня могуць зразумець, што на іх вачох будуецца *новая Беларусь.*

Завядзеш з імі гутарку аб тым, што беларускіе селяне па вёсках пазнаюць ужо праўду аб сабе і сваім народзі, што яны закладаюць у сябе беларускіе школы, што трэбуюць у свайго духавенства, каб прыносіло ім слова Божае ў роднай беларускай мове,—і яны верыць усяму гэтаму ня хочуць. Гэтые „інтэлігенты“ маскоўскае гадоўлі згаджаюцца с тым, што літвіны павінны вучыцца па літоўску, украінцы—па ўкраінску, але беларусы—ды крый Божэ! Як гэта можэ быць,—кажуць яны,—каб мы вырэкаліся расейскай школы, каторая дае нам доступ да вялікай расейскай культуры?!«

О, людзі малога сэрца! Няўжо-ж вы папраўдзі верыце ў тое, што кажэце? Няўжо-ж маскоўшчына так уелася ў вашы душы, што зьнішчыла ў іх уселякую веру ў творскіе сілы нашага народу і пашану да яго? Бо ціж можэ быць вялікшая зьневага для народу вашага, чымсі вашы заявы, што беларусы самі нічога ня створаць, а павінны толькі жэбраваць у дужэйшых суседзяў, падбіраючы крошкі з іх бяседнага стала?

Ня хочэцца верыць, каб маскоўская адукацыя давела сыноў беларускага народу да гэткага духоўнага ўпадку, — аднак, гэта праўда: тут мы маемо акурат тое самае, да чаго вядзе нашых спольшчэных беларусаў польская школа, польская адукацыя. Гэткім гадунцом чужацкае культуры мала таго, што яшчэ ўчора маскоўскіе ды польскіе нацыаналісты тое-ж самае казалі аб украінцах, аб літвінох,—што яшчэ так недаўна адбылося нацыанальнае адраджэньне ў чэхаў, што праўдзівая літэратурная мова ў Расеі сягае толькі пачатку мінулага сталецьця, што пад той час, як друкаваўся па беларуску наш найвялікшы культурны памятнік—«Статут Вялікага Князьства Літоўскага», у Польшчы «простай» — значыць, польскай мовай ніхто не пісаў, а ўся літэратура была лацінская! Ім мала гэткіх яркіх доказаў, што кожын жывы народ толькі тады даходзіў расьцьвету свае культуры, калі тварыў яе ў роднай мове: свой народ яны лічаць гэткім нікчэмным, што не асьмеліваюцца нават раўнаваць яго да другіх...

Але гэтые паны абмінаюць гутаркі на такую тэму: гісторыя, каторая выходзіць за межы ўчэбніка Іловайскага, для іх—рэч незнаная! Затое яны многа кажуць аб практычным значэньні справы—аб «шкоднасьці» адрачэньня ад маскоўшчыны. Вось, аб гэтым трэба сказаць пару слоў: сваей «практычнасьцю яны могуць папраўдзі абаламуціць несьвядомых людзей. Перш за ўсё, з «вялікай расейскай культуры» можэ чэрпаць не беларуская маса, а толькі беларуская інтэлігенцыя, каторая, праўду кажучы, і гэтай культурай не абмежываецца, а чэрпае аберуч і з нямецкай, і с францускай культуры: з іх-жэ вельмі многа бяруць самі маскалі! А беларускіе селяне, якіе ўзгадовываліся ў маскоўскай школе і далей не ішлі, скончыўшы пачатковую навуку і наўчыўшыся адно чытаць і пісаць па-расейску, праз усё сваё далейшае жыцьцё сустрэчаліся з «расейскай культурай» толькі ў канцэлярыі прystава, або земскага начальніка. Аб чытаньні расейскіх кніжак і гутаркі не было: расейская літэратура нічога не гаворыць сэрцу і душы беларуса, бо яна—чужая яму, бо ў ёй чужы, незразумелы для беларуса дух. Ня дзіва, што паваротная неграматнасьць—вельмі частая здарэньне між нашымі грамацеямі з маскоўскай школы...

Маскоўшчына ў усходняй Беларусі, так сама, як польшчына—ў заходняй толькі аддзяляла ад народу нашу інтэлігенцыю, станавіўшуюся чужой для яго. І ў рэзультаце было тое, што ўся «карысьць» ад чужацкае культуры абмежывалася адно жменяй інтэлігентаў, а народ зусім не падніма ўся культурна, не рабіў ні кроку ўпярод. А пойдзе ён упярод па дарозе шырокага культурнага разьвіцьця толькі тады, як культура будзе шырыцца ў народных масах у ядынай даступнай ім форме — у *роднай беларускай мове*,—як тые самые масы пачнуць тварыць сваю культуру—мо сьперша неўзнак, памалу, але неўстанна, разьвіваючы ўсе свае творскіе сілы,—як у гэткай працы прыме ўчасьце нацыанальна сьвядомая інтэлігенцыя, не забыўшаяся роднае мовы.

Вось, чаго вымагае практычнасьць у правільным разуменьні. Ды гэтакая практычнасьць нам кажэ, што беларусы, калі яны хочуць жыць сваім самабытным жыцьцём, павінны ўсе свае сілы абярнуць цяпер на творскую культурна-нацыанальную работу, на разьвіцьце свае мовы, на тварэньні сваей літэратуры, навукі,—свае школы: ніжэйшай, сярэдняй і вышэйшай. Нацыанальная культура —гэта той цэмэнт, які будзе заўсёды злучаць беларусаў у адну сям'ю, нават тады, калі-б благіе для нас акалічнасьці раздзерлі на часьці жывое народнае цела.

Народ наш ужо пайшоў па гэтай дарозе. Ажно сэрцэ радуецца

як прыежджые ў Вільню селяне апаведаюць аб сваей нацыянальнай працы, аб барацьбе с чужацкімі наплывамі—тут, пад Вільняй, і далей—у Гродзеншчыне і Беласточыне. А там, за раздзельнай лініей, праведзенай на моцы Берасьцейскае ўмовы, беларускі ўрад прыступіў ужо да працы над утварэньнем нацыянальнай школы, над разьвіцьцем беларускай мовы і літэратуры. У гэткай працы — фундамэнт нашай будучыны, і хто ў цяперашні паваротны момэнт не прыкладае да яе свае рукі, а ўсё яшчэ агледаецца на дужых суседзяў, той або сьляпы, або сьвядомы вораг нашага народу. І для іх у *новай Беларусі*, вольнай ад чужацкіх наплываў, месца ўжо ня будзе: ім туды ехаць нема чаго!

*І. Мелешка.*

## „Вучыцелькі“.

С таго часу, як с прадвечны жыхар нашага краю, беларус, перэстаў быць гаспадаром на сваёй зямлі, с таго часу, як у нас запанавалі палякі, а пасьля і маскоўцы наш край стаў музэем розных ненармальнасьцей. Гэтые ненармальнасьці да таго ўеліся ў нашые косьці, што мы часта нават іх ня відзім. Ня будзем гаварыць тут аб ненармальнасьцях звычайных і агульных, бо гэтые ненармальнасьці, гэтае хваравітае, а часта і зусім хворае палажэньне нішчыць беларускі рух і зусім будуць паруханы яны толькі тады, як беларускі рух закрые сабой усё, як беларускі народ адродзіцца, як ён узноў стане гаспадаром на сваёй зямлі. Але ёсьць ненармальнасьці, ёсьць хваробы незвычайные, каторые могуць закрануць і людзей, для каторых «усё роўна» і каторые робяць «як усе, так і мы». Да гэткіх хвароб належыць польскае «вучыцельства», ляпей сказаць «вучыцелькі», цяперашняга Віленскага павету. Вучыцелькі гэтые цяпер сабраны на летніе курсы ў Белым Дварэ (каля Тургель). На курсах каля 25 вучыцеляк. З іх 2 беларускі і 3 літвінкі, рэшта ўсе «палячкі». Вось-жэ ўбачыўшыся с польскімі «вучыцелькамі» чэлавек, нават добра азнаёмлены с хворым ненармальным палажэньнем у нашым краі, будзе вельмі зьдзіўлены. Яго зьдзіўленьне павялічыцца яшчэ болей і дойдзе да якойсь загадкі, калі ён пазнаёміцца з іх «работай» каля Белага Двара. Польскіе вучыцелькі падзерлі і зьнішчылі вялікую бібліотэку ў Белым Дварэ, яны-ж, як кажуць суседніе селяне, прафануюць могілкі ў гародзе двара, і гэта толькі дзеля таго, што ўсё гэта ня польскае. «Вучыцелькі» што дзень расплываюцца навакол па ўсіх вёсках і вядуць там бязбогую і нягодную агітацыю. Яны стараюцца перэканаць народ, што хто будзе лічыць сябе беларусам, таго напэўна зробяць праваслаўным. Мала гэтага, карыстаючы с цяжкога палажэньня ўтворэнага вайной, польскіе «вучыцелькі» стараюцца ўмовіць селянам, што ўсё ліха быццам ад таго, што народ гаворыць не па польску, а па беларуску, бо, бачыце, каб селяне былі не беларусамі, а палякамі, дык тады палякі прагналі б немцаў, а значыцца ня было-б рэквізыцый і іншага. «Вучыцелькі» аднак замоўчываюць, што палякі прасілі немцаў прылучыць часьць Беларусі да Польшчы і за гэта адракаліся ад тых палякоў, каторые ў Нямеччыне. «Вучыцелькі» не спамінаюць, што палякі хочуць прылучыць Беларусь да Польшчы, каб даць на Беларусь выхад лішніцы польскіх жыхараў, каб на беларускай зямлі садзіць палякоў і ўсякае выясьненьне гэтага беларускімі вучыцелькамі польскіе «вучыцелькі» зараз перакручэно даносяць мясцовым нямецкім уласьцям, як небаспечную соцыялістычную агітацыю. Вядзецца агітацыя проціў незалежнасьці Літвы. Чаго не выдумляюць бедным селянам на беларускіх і літоўскіх дзеячоў. Паслухаўшы іх, здасца, што нема такіх нягоднікаў на сьвеце, як гэтые беларусы. Можэ падумаеце, што польскіе вучыцелькі блізкі да народу, калі вядуць такую заўзятую агітацыю. Праўда, што датычэцца агітацыі, дык яны ўмеюць быць і блізкімі, і часта пасьля іх «работы», калі зойдзешся да гаспадара ў вёсцы, дык ён на цябе глядзіць як на свайго злосьніка. Але не падумайце, каб польская «вучыцелька» прызналася да якойсь там дэмакратычнасьці, блізкасьці з народам. Не, дзе там. Гэта беларускіе і літоўскіе вучыцелькі „с хамаў“, а яны паненкі-арыстакраткі; вялікшая часьць з іх кажэ, што яны гадаваліся ў вялікіх мястовых палацах, што нават дагэтуль вясковай хаты ніколі не бачылі і дадаюць часта перад кім лічуць непатрэбным агітаваць, што калі яны і пайшлі цяпер за вясковых вучыцеляк, дык толькі дзеля таго, каб нахінуць „głupiego chłopa białoruskiego do Polski“. І хоць ад знаёмых гэных «вучыцеляк-арыстакратак» вы можэце даведацца ў Вільні, што аднэй з іх брат шаўцом на Сьніпішках, другой пастухом на Зьвярынцы, аднак яны вам ні за што не прызнаюцца, што яны „простые“, а не „арыстакраткі“.*) Жыць з гэткімі „вучыцелькамі“ вельмі цяжка. Гэта яшчэ нічога, што гутарка ў іх бывае толькі на дзьве тэмы: 1) хваліць польскае і ганіць, лаяць усё іншае, няпольскае, і 2) аб любві; яны сыстэматычна і бязбога перасьледуюць дзьвёх беларускіх вучыцеляк. Беларускі ад іх месца не маюць. Ня думайце каб гэтае перасьледаваньне было прыбрано хоць трохі ў культурные формы. Нічагусенькі гэтага нема! „Палячкі“ ходзяць па пятах беларусак, дадзеваюць, сьмяюцца, вышчыраюцца; просьбы адчапіцца не памагаюць і нідзе не ўцячэш ад іх Дзякуючы таму, што с прычыны ненармальных варункаў іх шмат болей, яны па чародзе перасьледуюць, думаючы, што ў канцы так дадзенуць, што чэлавек адрачэцца ад усякай ідэі. Дык і нема дзіва, што беларускі не раз і не два, а часта ўмываюцца сьлязьмі ад іх зьдзеку.

Запраўды дзіўна, як могуць зрабіцца ў наш час гэткіе тыпы, гэткіе нягодные і разам бедные пакалечэные людзі. А яны вось як зьяўляюцца. На Беларусі, як і Літве зусім забыліся аб сваім беларускім або літоўскім і шчыра лічуць сябе палякамі—гэта вялікшые паны-арыстакраты і багацейшые мешчане, каторых яшчэ прадзяды апрануліся ў польскую скурку. Звычайнае-ж мешчанства, шляхта, а селяне і пагатове, калі і прызнаюць сябе палякамі, дык гэта перш-на-перш таму, што польскай прывыклі называць каталіцкую веру; калі-ж некаторые з іх і запраўды лічуць сябе палякамі, дык заглянуўшы глыбей знаходзюць, што яны беларусы. Нагул, у палякоў на Беларусі «людзей», «народу», усяго таго, што называецца «простым» нема. Есьць толькі польскіе вярхі, але вонках іх нічога нема; ёсьць толькі «матэр'ял на палякоў», але палякоў нема. Дык вось, каб прыгатаваць агітатараў палянізацыі трэба іх тут, у нас на Беларусі, адарваць ад усяго «чужога», «простага», здаровага, разумнага, прыроднага; трэба іх вывіхнуць, скалечыць І вось дзеля гэткага калечэньня вельмі шмат робіцца. Падмогай дзеля калечэньня ў палякоў, апрача жывой сілы, як арганізацыі, і грошай, ёсьць цэлая вялікая літэратура шляхоцка-панскай Польшчы пачынаючы ад маленькай кніжачкі за 10 грошай і канчаючы трылёгіей Г. Сенкевіча. На калецтва ў палякоў што год ідуць вялікіе грошы. У Вільні вельмі шчасьліва займаюцца гэткім калечэньнем «акадэміі» розных паняў і старых паннаў. Гэткіе «акадэміі» ня толькі выховываюць калекіх вычыцеляк і вучыцялёў. Яны калецтвам займаюцца на ўсіх фронтах, на ўсіх пазіцыях. Між іншым, што год шмат пасылаюць пакалечэных беларускіх хлапцоў у каталіцкие духоўные сэмінары.

*Пётра Войцеховіч.*

*) Аўтар занятку шаўца і пастуха ня лічыць благім і прыводзіць тут толькі дзеля высьненьня.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларуская музыкальна-драматычная дружына.** С прычыны выезду п. Ф. Олехновіча, нашая музыкальна-драматычная дружына выбрала за свайго старшыню п. А. Бароўскага, за таварышку старшыні—п. К. Стэфановічанку. Справа рэжысэрства будзе разьвязана ў найбліжэйшых днёх.

Апрача гэтага, пастаноўлено зьвярнуць больш увагі на музыкальную работу, за кіраўніка каторай выбран вядомы ў Вільні сьпевака, п. Вадзынскі.

× **На курсы ў Сьвіслач.** У Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі ў Сьвіслачы пяты элемэнтарны курс пачынаецца 15 жніўня і будзе трываць 6 месяцаў. Кандыдаты на беларускіх народных вучыцялёў з Вільні могуць быць прыняты на новы курс, заяўляючы аб гэтым да 1 жніўня ў Stadtschulrat'a, Дамініканская3, а кандыдаты с правінцыі—у свайго Krejshauptmana.

× **Заяўка ўцекачоў.** Stadthauptmann апавешчае, што ўсе ўцекачы, прыехаўшые сюды і яшчэ не заявіўшыеся, павінны заявіцца ў Stadthauptmanna, Дамініканская 3, пакой 145. За незаяўку будуць караць.

× **Жалезнадарожная ваенная дырэкцыя 5** друкуе новые жалезнадарожные тарыфы для падвозу с Сілезіі і Украіны каменнага вугальля. Спіс тарыфаў прадаецца па 30 фэн. экзэмпляр.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 15—16 | + 24,4° | + 11,2° |
| 16—17 | + 22,0° | + 11,6° |
| 17—18 | + 19,4° | + 10,2° |

## З усяго Краю.

### Палякі аб нашым краю.

Кракаўскі «Czas» у № 272 з 26 чэрвеня паміж іншым пішэ:

„За межамі конгрэсовай Польшчы пануе сыстэма барацьбы с польскім элемэнтам с помаччу розных плямён, штучнай агітацыей прызваных да палітычнага жыцьця. Літвіноў, беларусаў і ўкраінцаў ужываюць дзеля гэтага с тэй думкай, каб перашкодзіць палякоў у разьвіцьці іх моцы і стварыць для будучыні выгодны спосаб для шырэньня нездавольства ў межах будучай Польскай дзержавы. Напрыклад, цяпер окупацыйные ўласьці з усей энэргіей працуюць дзеля таго, каб прыдаць Вільні літоўскі характэр, і з

*Францішк Олехновіч.*

## На Антокалі.

П'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 55).

ЮЗЮК.

Для мяне маё жыцьцё ўжо скончылося.

ЗОСЬКА

(бытцым зьдзіўшыся).

Гэта-ж чаму?

ЮЗЮК.

Для мяне немашака жыцьця без цябе... без панны Зофіі.

ЗОСЬКА (зьменяючы тэму).

Ужо гатоў самавар. Чаму не п'еце гэрбаты?

ЮЗЮК (як вышей).

Што мне гэрбата! Я-б напіўся цяпер асенсіі ацтовай!

ЗОСЬКА.

Кожны мае свой густ. А мне смачнейшая гэрбата.

ЮЗЮК (пасьля паўзы).

Значыцца вы не маеце для мяне ўжо нічога.

ЗОСЬКА.

Чаму? Маю гэрбату і булкі.

ЮЗЮК.

Вы ўсё сваё: гэрбата ды гэрбата! Я кажу аб чым іншым!

ЗОСЬКА (сьцюдзена).

А!.. аб чым іншым?

ЮЗЮК (падходзіць да яе).

Панна Зофія! ці вы ўжо ня можэце ні часінкі пагутарыць са мной паважна? У гэты момэнт важыцца маё жыцьцё, мая доля...

ЗОСЬКА.

Ну, дык слухаю. Што-ж вы мне скажэце?

ЮЗЮК.

Панна Зофія! золатцэ маё, даражэнькая мая! Вы-ж ведаеце, што я вас кахаю больш жыцьця свайго.

ЗОСЬКА (нецярпліва).

Эт!..

ЮЗЮК.

Я думаў, што наша доля будзе інакшая, я думаў...

ЗОСЬКА.

Ну, дык што, што думаў. А ўсё будзе іначэй.

ЮЗЮК

(бярэ яе за руку).

Панна Зося! каханенькая, даражэнькая, сонейка яснае!..

ЗОСЬКА

(вырываючы руку).

Што вы граболіце мяне па руцэ!.. Ну дык што?

ЮЗЮК.

Ніколі я нікога нічагусенькі не прасіў.. А цябе прашу, малюся да цябе... прашу хоць трошэчкі каханьня. (На каленях): Як сабака поўзаю каля тваіх ног і плачу тутака!.. (закрывае рукой вочы).

ЗОСЬКА (устае).

Каханьня ня выпрасіш ні просьбамі, ні сьлязьмі.

ЮЗЮК.

(паднімаецца с падлогі).

Ты-ж мяне кахала!

ЗОСЬКА.

Не. Я вас не кахала! Гэта што было — гэта так сабе... жарты.

ЮЗЮК,

Значыць вы кахаеце гэтага Радзівілловіча.

гэтай мэтай маняцца ўстроіць там вялізарную ўрачыстасьць с прычыны аб'яўленьня незалежнасьці Літвы. Аднак, ніякі загад Об Ост'а і ніякіе найсьмялейшые заявы літвіноў, хворых на манію вялічча, ня зьнішчаць польскага характэру Вільні і ня здолеюць прымусіць Ле жыхараў пакінуць надзею на новае злучэньне с Польшчай".

**Будучыня Балтыцкіх зямель.**

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адвакат Эдгар Татарын у Рызе друкуе ў газэтах стацьцю, у якой вядзе спорку с тымі, хто дабіваецца незалежнасьці латышскай і эстонскай рэспублік. Ен даводзіць немагчымасьці спаўненьня гэткіх праектаў. Такіе маленькіе дзержавы, аддзеляючые Расею ад мора, сталіся-бы ахвярай узмацаваўшайся Расеі.

---

ГОРАДНЯ. Гэтымі днямі будзе выдавацца апошняя бульба з леташняга ўраджаю. Калі пачнуць выдаваць бульбу с сёлетняга ўраджаю, яшчэ невядома.

ГОРАДНЯ. Чыноўнік тайнай паліцыі сустрэў чэлавека нясучы вялікі кацёл. Тады ён спытаўся куды той нясець яго, ды пачуў адказ, што на Дварцовую 11. У чародную ноч туды зьявілася паліцыя і знайшла там два вялікіе ўмураваные катлы ды іншые бравaрнічые прылады. Бравaрнічые Блох і Фрыдман тлумачыліся, што яны ладзілі вялікую прачкарню, аднак у іх знайшлі бязспорные доказы, што тут гналі сьпірт. Блоха і Фрыдмана аддалі пад суд.

БРАЦЕЙКІ. У начы зладзеі праз саломенную страху залезьлі ў хату селянкі Лукуць і ўкралі 10 пудоў збожжа.

ЯЦВЕЗЬ, Гродз. пав. Тутэйшая грамада аштрафована на 600 мар. за тое, што адзін селянін хаваў у сябе ўцёкшых ваенна-палонных.

КІСЬЦЕНІШКІ. У гаспадара Язэпа Кракаўскаса ўкралі каштанавую кабылу цаной 2.000 м.

ЕЗЭФОВА, пад Дубовай. У часе апошняй навальніцы пярун двойчы ўдарыў у гэту вёску. Згарэлі хата, стайня, хлеў і сьвіран. Шкоды зроблено на 6.000 руб.

ПАЛІНЦА, Гожскай вол. У начы на 2 ліпня ад пяруна згарэў хлеў гаспадара Міхала Скібэля; разам з гаспадарскімі прыладамі згарэлі там 700 руб. „царскіх" і 400 — „нямецкіх", якіе неразумны гаспадар схаваў у сене.

НЕМАНОВА. За тайную навуку без пазваленьня начальніка Verwaltung'a Гэрш К. аштрафован на 100 марак.

САПОЦЬКІН. Селянін Міхал Целеш заявіў, што яго карова ня хочэ даваць малака, часьць якога кожын гаспадар павінен аддаваць Krejshauptmanu ад свае каровы. Тады пры жандару зрабілі спробу даіць яе, і карова дала ў два разы больш малака, чымсі ад яе трэба было. Селяніна аштрафавалі

БЕЛЫ, Сувальск. пав. Пярун запаліў гумно селяніна Францішка Месільвіча. Гумно, а разам з ім і хлявы згарэлі.

КОУНА. Між Коўнай і Бярэсьцем ладзяцца пастаянные пачтовые зносіны ў паветры. Почта даходзіць у Коўну і ў Бярэсьце ў 7—8 гадзін. Як вядома, Бярэсьце мае пачтовые зносіны ў паветры с Кіевам.

## Украіна.

КІЕУ. Расейска-ўкраінская мірная камісія разглядала пытаньне, да каго належыць Доншчына. Расейскіе дэлегаты заявілі, што Расея ня можэ аддаць Донскай обласьці, бо асталася-бы без вугальля. Яны жадалі прылучэньня да Расеі Таганрогскага і Славянскага паветаў. Пытаньне аб Крыме пастаноўлено разглядзець у міжнароднай камісіі, у якой будуць заседаць і прэдстаўнікі Крыма.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Англічане занялі Сарокі і Сумскі пасад. З гэтай прычыны Чычэрын падаў пратэст англіцкаму і француcкаму ўрадам, жалючыся, між іншым, на паддзержку імі чэха-славакоў і контррэвалюцыянераў у Расеі. У Архангельск ізноў прыбылі сэрбскіе афіцэры і солдаты; число іх даходзіць 5.000.

ЛОНДОН. С Пэкіна наказваюць, што генэрал Хорват абецаўся памагчы, чэха-славаком, каторые стараюцца прабіцца да Іркуцка.

БЭРЛІН. Урад генэрала Хорвата ў Харбіне абнімае кадэтаў, лібэралаў, соцыалістаў і кіраўнікоў сібірскіх прамышленікаў. У міністэрстве заседаюць: кадэт Кострoтін, быўшый міністэр пры Кeрэнскім Стругов, банкір Пуцілов, генэрал Флюг, адмірал Колчак.

МАСКВА. Паводлуг газэтных вестак, савецкіе войскі занялі Сызрань і Бугульму.

„Новая Жізнь" пішэ, што за апошні тыдзень арэштаваны 800 соц.-рэвалюцыянераў і распушчэны 500 арганізацый. Між арэштаванымі ёсьць і кадэты.

БЭРЛІН. Расея адрэзана ад паўночнага Каўказу, што шмат пагоршыло палажэньне ўраду.

Троцкій і Ленін кожын дзень зьвертаюцца да народу с прызывамі паддзержаць урад напярадодні катастрофы.

У Яраслаўлі і ў Рыбінску пачаліся бунты проці большэвікоў. Манархісты, кадэты і акцябрысты дамагаюцца, каб Нямеччына ўмешалася ў расейскіе справы. Павага большэвікоў зьменшаецца с кожным днём, асабліва на правінцыі.

МАСКВА. „Правда" наказывае, што ў Яраслаўлі контррэвалюцыйные афіцэры забілі 3 большэвікоў. Газэта дамагаецца масавага тэррору дзеля барацьбы з буржуазіей. На Урале саветы арэштавалі багатых грамадзян, каторые адказываюць сваімі галовамі за жыцьцё большэвікоў, арэштаваных варожай стараной.

МАСКВА (В.Т.Б.). Газэты друкуюць заявы розных работніцкіх арганізацый, якіе востра судзяць палітыку левых соцыал-рэвалюцыянераў. Арганізацыя левых соц.-рэв. распалася: часьць далучылася да большэвіцкай, а рэшта — да правых соц.-рэв.

„Правда" друкуе гэткую заяву ўсерасейскага конгрэсу савегаў: „Арганізатары і ўчасьнікі забойства нямецкага пасла і пазьнейшага паўстаньня злоўжываюць свaё палітычнае палажэньне. Конгрэс трэбуе цяжкой кары для ліхадзеяў. Для такіх арганізатараў нема месца ў саветах, якіе за сваю глаўную задачу лічаць удзержаньне міра. Толькі пры наступленьні чужынцаў ўсе работнікі, селяне і сумленные грамадзяне павінны бараніць бацькаўшчыну ад чужацкага імпэрыалізму".

МАСКВА 12 і 13 ліпня выпусьцілі многа арэштаваных соцыал-рэвалюцыянераў, проці каторых не знайшлі улік.

ВАЛОГДА. За апошніе 6 дзён сюды зусім не падвозілі збожжа. Цэны на яго дайшлі нячутай меры.

З Уст-Сысольска наказываюць, што селяне кормяцца хлебам, у каторым мука перамешана напалову з дрэўнай карой. Многа людзей захварэло на скурные хваробы.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). С прычыны прамовы канцлера ў Рэйхстагу аб магчымасьці міра француcкіе газэты пішуць, што гэта толькі сіло і спроба раздзяліць саюзьнікаў. Усё-ж прамова канцлера сьведчыць, што мір для Нямеччыны канечна патрэбен.

«Journal» пішэ. «Саюзьнікі цьвёрда пераконаны, што прыйдзе дзень, калі яны будуць дыктаваць мір. З гэтай прычыны яны ня хочуць вясьці ніякіх гутарак аб ім».

ВЕНА. Пасьля 4 месячнага перарыву аўстрыяцкі парлямэнт ізноў пачаў свае заседаньні. Пастаноўлено прыступіць да першага чытаньня бюджэту, разгледаючы пытаньні ўнутрэнай і заграцічнай палітыкі. Міністэр-прэзыдэнт Зэйдлер заявіў, што трэба супольна з саюзнымі дзержавамі аружжэм закончыць пабедную вайну. У ўнутрэнай палітыцэ ўрад дабіваецца палітычнага замірэньня. Палітычны курс у Аўстрыі ня можэ кіравацца проці немцаў. Гэтак сама нельга ўпраўляць Аўстрыей бяз немцаў.

РОТТЭРДАМ. Француcкае нацыанальнае сьвята 14 ліпня сьвяткавалі і ў Лёндоне бурнымі маніфэстацыямі. На масовых сходах работнікі прынялі рэзалюцыю, што яны ваююць дзеля павароту Франціі Эльзаса-Лётарынгіі і за зьнішчэньне пруcкага мілітарызму. Лёндонскіе работнікі будуць бароцца датуль, пакуль дынастыі Гогэнцольлернаў і Габсбургаў ня будуць скінуты сваім народам. Міра ня можэ быць датуль, пакуль немцы ня вернуць усіх шкод народам, пацярпеўшым ад вайны.

БЭРЛІН. Інжэнер Мэдлер збудаваў аднацыліндровы матор, каторы мае сілу 300 конскіх сіл, значыць, сільнейшы за цяперашніе маторы блізка ў чатыры разы. Матор ужо ўжываецца ў падводных лодках і аэроплянах.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньні.**

**16.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На палудзенным заходзі і на ўсходзі ад Рэймсу мы ўчора ўварваліся на француcкіе пазіцыі. Пасьля нішчучага агню артылерыі, мінамётаў, газамётаў і агнямётаў армія Бэм'а перэйшла цераз Марну. Пяхота ўзяла штурмам вяршыны на палудзенным беразі Марны. У вострых бітвах мы прарвалі першые варожые пазіцыі і адкінулі ворагаў на лінію Конт-ля Шапэль-Комблізі-Маррэй. Між Арт і Марнай мы такжэ занялі першые француcкіе і італьянскіе пазіцыі і стаём на лініі Шатільён-Кішрі-Шомізі. На ўсходзі ад Рэймсу, на фронці Прінэ Тагір, мы ўзялі ў адступа-

---

ЗОСЬКА (срога).

А вам да гэтага якое дзела!?

ЮЗЮК.

Вось як! для грошэй! для грошэй!.. (Кароткая паўза). Зосечка! я буду працавэць, як вол, я адчыню сваю майстроўню, я-ж маю крыху грошы — мы з братам маем дом у Гордні, вы нічога ня будзеце рабіць, будзем шчасьлівы...

ЗОСЬКА (з іроніей).

Гэ, гэ! шчасьлівы! Дурны! Дзе німа грошы, там і каханьне хутка пройдзе. Ды на што многа казаць! — Так павінна быць і канец! Калі-б вы мяне запраўды кахалі, дык былі-б рады, што мне здараецца такое шчасьце, а ня тое, каб адгаварываць мяне ад гэтага.

ЮЗЮК.

Шчасьце! значыцца гэта шчасьце?.. Шчасьце! ты — птушка, што высака лётаеш над намі! Ох дарма мы выцягіваем рукі, каб злавіць цябе, ты страхнеш нам некалькі пёрак тыкеля і ляціш далей будзіць тугу людзкую!.. О, шчасьце!..

ЗОСЬКА

(глядзіць на яго шырака рашчыненымі вачыма, пасьля кажэ ўсьмехаючыся).

Ого! Вы гаворыце, бытцым с кніжкі чытаеце.

ЮЗЮК (пяе).

Ах, дарагая, ці добра робіш,
Што за Ігната замуж ідзеш?
Ціж ты не бачыш, што сябе губіш —
Тамака шчасьця ты не знайдзеш.
Цябе люблю я, ах так страшэнна,
Што для цябе я гатоў на ўсё,
Дык зразумей-жэ, што робіш дрэнна,
Бо ты загубіш сваё жыцьцё!

ЗОСЬКА (пяе):

На што тут гэты словы пустые, —
Нельга нічога, перэмяніць, —
І не памогуць тут ніякіе
Тваe намовы іначэй жыць.
Я пойду ў права, а ты на лева,
І ўжо ніколі ня зойдземся.
Дык будзь шчасьлівы і ня мей гневу,
Бо суджэна нам доля така.

РАЗАМ (пяюць):

Я пойду ў прапа... і т. д.

ЮЗЮК.

(гаворэ, абымаючы Зоську).

Ах, Зосенька! мне ня хочэцца верыць... Значыць ужо растаемся на-заўсёды.. О, не! я здурнею!

ЗОСЬКА.

Ну, уцішся, гэта пройдзе,—забудзешся! (жаласьліва цалуе яго).

ЮЗЮК.

Н колі!.. Ніколі!..

З'ява 8.

ТЫЕ-Ж і МАЦЕІХА.

МАЦЕІХА

(паглядае праз дзьверы і, пабачыўшы абняўшуюся пару, крычыць).

Ах! выбачайце!.. (зачыняе шыбка дзьверы).

**З'ява 9.**

ТЫЕ-Ж без МАЦЕІХІ.

ЗОСЬКА

(адскочыўшы ад Юзюка).

Ах, Божухна!.. Бачыш!.. бачыш! — гэта ўсё праз цябе! Гэта твая віна!

ЮЗЮК.

Што-ж я тутака вінаваты?

ЗОСЬКА.

Што ты вінаваты!? Але! Што вінаваты! Акно ад вуліцы, дзьверы ад вуліцы, а ён тут пачынае свае аморы! Гэткая неасьцярожнасьць! І якое ты маеш права, калі я казала, што замуж за цябе не пайду.

ЮЗЮК.

Дык ты-ж сама...

(Далей будзе).

ючага ворага яго першую лінію і дайшлі дарогі Рымлян, на паўночным заходзі ад Пронь. На ўсходзі ад Сюіп, між Обрів і Тагір, мы адабралі ў ворагаў поле леташніх бітв у Шампані. Ворагі дзержацца на сваёй другой лініі на поўначы ад Пронь, Суэн, Пэрт. Чысло ўзятых палонных ужо больш за 13.000. Мы зьбілі 31 варожы самалёт і 4 прывязные лятучые шары.

**17.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: На палудзенным заходзі ад Іпра мы ў разьведках узялі палонных. На палудзенным усходзі ад Эбітэрн ворагі вялі ізноў дарэмные атакі.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Мясцовые бітвы ў даліне Сав'ер і на заходзі ад Шато-Т'ері. На палудзенным заходзі ад Курт-Мон мы пасунулі нашы лініі да адрэзка Сурмулен. Вострые контратакі ворагаў, ведзеные вялікімі сіламі проці нашага фронту на палудзенным беразі Марны, зламаліся з найцяжэйшымі стратамі пасьля вельмі вострых бітв перад нашымі лініямі. Удачы папярэдняга дня мы пашырылі. Адбіўшы францускіе контратакі, мы гналіся за ворагамі да вяршын на поўначы ад Вантэй і прабіліся праз лясы Родма і Каралеўскі. Наабапал Ардр мы адкінулі ворагаў у гарыстые ваколіцы Рэймса, між Нантэй і Пурсі. На ўсходзі ад Рэймса мы палепшылі нашы пазыцыі пры Рымскай дарозе і на рацэ Сюіп. На паўночным заходзі ад Массіж мы здабылі некалькі вяршын. Число палонных перайшло за 18.000. Мы зьбілі 36 варожых самалётаў і 2 прывязные лятучые шары. Паручык Мэнкгоф зьбіў свайго 37 і 38 ворага.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

АМСТЭРДАМ. С прычыны прамовы канцлера ў Рэйхстагу Клемансо заявіў, што ён больш верыць абецанкам Фоша, чым Гэртлінга. Ен і пасьля прамовы канцлера пераконан, што аб міры ня можэ быць гутаркі.

ВЕНА (В.Т.Б.). 16.VII. Згодне з апошнімі заявамі міністра заграпічных спраў, Бур'яна, аб еднасьці ваеннай палітыкі цэнтральных дзержаў, аб міры з Расеей і Украінай ня будзе больш ніякіх гутарак між імі. Гэтак сама Трыэнт, Трыэст, Эльзас-Лётарынгія і нямецкіе калоніі ня могуць служыць за рэчы, аб якіх маглі бы вясьціся мірные перэгаворы. Не зачэпнасьць зямель цэнтральных дзержаў — гэта аканчацельны варунак міра.

ЛОНДОН Рэўтэр). Амэрыканскіе газэты пішуць, што ўселякіе гутаркі з немцамі — зусім лішні.

ПАРЫЖ (Рэўтэр). Абстрэл Парыжа з дальнабойных гармат пачаўся ізноў у панядзелак. Некаторые тарговые дамы і фабрыкі пастанавілі перэкачэвацъ у сярэднюю і палудзенную Францію.

ВЕНА (В.Т.Б.). 17.VII. На паўдня ад Ас'яго дзьве англіцкіе роты ўварваліся ў нашы акопы, але пасьля кароткай бітвы выкінуты адтуль. У даліне Брэнты мы ўзялі 30 палонных і 2 кулямёты. Страты ворагаў у апошніх бітвах на Соляроле вельмі цяжкіе. На вузкім фронце налічэпо 8.500 італьянскіх трупаў.

ВЕНА (В.Т.Б.). Аўстрыяцкі імператар рэскрыптам на імя фэльдмаршалка Конрада ф. Гэтцэндорфа высказывае сваю згоду на яго адстаўку і дае яму тытул графа. На яго месца назначаецца эрцгэрцог Язэп.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 16.VII. Нашы падводные лодкі ў заходняй часьці каналу затапілі 3 параходы і 1 парусьнік ёмкасьцю разам 31.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі навакол Англіі затапілі ізноў 23 000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.